## СВЯТОЕ ЕВАНГЕЛЛЕ ПАВОДЛЕ МАРКА

### 1 (1-45)

[1]Пачатак Евангелля Езуса Хрыста, Сына Божага.

[2]Як напісана ў прарока Ісаі:
*«Вось пасылаю анёла Майго перад Табою,*
*які падрыхтуе дарогу* Табе.
[3]*Голас таго, хто кліча ў пустыні:*
*“Падрыхтуйце дарогу Пану, простымі рабіце сцежкі Яму”».*

[4]З’явіўся Ян, хрысцячы ў пустыні і абвяшчаючы хрост пакаяння дзеля адпушчэння грахоў. [5]І выходзілі да яго ўся краіна юдэйская і ўсе жыхары Ерузалема, і прымалі хрост ад яго ў рацэ Ярдан, вызнаючы грахі свае. [6]Ян жа насіў адзенне з вярблюджай воўны і скураны пояс на бёдрах сваіх і еў саранчу і дзікі мёд.

[7]І прапаведаваў, кажучы: «Ідзе за мною Мацнейшы за мяне, якому я нявартык, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Яго сандалях. [8]Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Духам Святым».

[9]І сталася ў тыя дні: прыйшоў Езус з Назарэта, што ў Галілеі, і быў ахрышчаны Янам у Ярдане. [10]І адразу, калі выходзіў з вады, убачыў нябёсы раскрытыя і Духа, што як голуб, сыходзіў на Яго. [11]І быў голас з нябёсаў: «Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я».

[12]І адразу Дух павёў Яго ў пустыню. [13]І быў Ён у пустыні сорак дзён, а сатана выпрабоўваў Яго; і быў Ён са звярамі, і анёлы служылі Яму.

[14]Пасля таго як выдалі Яна, прыйшоў Езус у Галілею, прапаведуючы Евангелле Божае [15]і кажучы: «Споўніўся час, і наблізілася Валадарства Божае; кайцеся і верце ў Евангелле».

[16]Праходзячы каля Галілейскага мора, убачыў Сымона і Андрэя, брата Сымона, якія закідвалі сеткі ў мора, бо яны былі рыбакамі. [17]І сказаў ім Езус: «Ідзіце за Мной, і Я зраблю вас рыбакамі людзей». [18]І адразу, пакінуўшы сеткі, яны пайшлі за Ім. [19]Адышоўшы крыху далей, Ён убачыў Якуба Зэбэдэевага і Яна, брата ягонага, якія таксама ў чоўне ладзілі сеткі. [20]І адразу паклікаў іх. І яны, пакінуўшы бацьку свайго Зэбэдэя ў чоўне з работнікамі, пайшлі за Ім.

[21]Калі прыйшлі ў Кафарнаум, Ён адразу ў шабат увайшоў у сінагогу і навучаў. [22]І здзіўляліся вучэнню Ягонаму, бо Ён вучыў іх як той, хто мае ўладу, а не як кніжнікі. [23]І быў тады ў сінагозе чалавек, апанаваны нячыстым духам, які закрычаў: [24]«Што Табе да нас, Езус Назаранін? Ты прыйшоў загубіць нас? Я ведаю Цябе, хто Ты: Святы Божы». [25]Але Езус забараніў яму, кажучы: «Змоўкні і выйдзі з яго!» [26]Тады нячысты дух, скалануўшы яго і закрычаўшы моцным голасам, выйшаў з яго. [27]І спужаліся ўсе так, што пыталіся адзін у аднаго, кажучы: «Што гэта? Новае вучэнне з моцаю; Ён загадвае нават нячыстым духам, і яны слухаюцца Яго». [28]І хутка разышлася пра Яго чутка па ўсёй ваколіцы Галілеі.

[29]Выйшаўшы з сінагогі, адразу прыйшоў з Якубам і Янам у дом Сымона і Андрэя. [30]Цешча Сымона ляжала ў гарачцы, і адразу Яму сказалі пра яе. [31]Ён

падышоў і, узяўшы за руку, падняў яе. І пакінула яе гарачка, і яна прыслужвала
ім.
[32]Калі настаў вечар і зайшло сонца, прыносілі да Яго ўсіх нядужых і
апанаваных злымі духамі. [33]А ўвесь горад сабраўся перад дзвярыма. [34]Ён
аздаравіў многіх, якія цярпелі на розныя хваробы, і выгнаў многіх злых духаў; і
не дазваляў злым духам казаць, што яны пазналі Яго.
[35]На досвітку, устаўшы вельмі рана, Ён выйшаў і пайшоў у пустыннае
месца і там маліўся. [36] Услед за Ім пайшоў Сымон і тыя, хто быў з ім. [37]А калі
знайшлі Яго, сказалі Яму: «Усе шукаюць Цябе!» [38]Ён адказаў ім: «Пойдзем
куды-небудзь у блізкія паселішчы, каб Я і там прапаведаваў, бо дзеля гэтага Я
прыйшоў». [39]І прапаведаваў Ён у сінагогах іхніх па ўсёй Галілеі, і выганяў злых
духаў.
[40]Вось прыйшоў да Яго пракажоны і, упаўшы на калені, прасіў Яго,
кажучы: «Калі хочаш, можаш мяне ачысціць». [41]Злітаваўшыся над ім, Ён
працягнуў руку, дакрануўся да яго і сказаў яму: «Хачу, будзь ачышчаны!» [42]І
адразу сышла з яго праказа, і ён стаў чысты. [43]Езус сурова звярнуўся да Яго і
зараз жа адправіў. [44]І сказаў яму: «Глядзі, нікому нічога не кажы, але ідзі,
пакажыся святару і прынясі ахвяру за ачышчэнне сваё, як загадаў Майсей, на
сведчанне ім». [45]Але той, выйшаўшы, пачаў шмат абвяшчаць і расказваць пра
здарэнне, так што Езус не мог ужо адкрыта ўвайсці ў горад, а заставаўся звонку,
у пустынных мясцінах. І прыходзілі да Яго адусюль.

## 2 (1-28)

[1]Праз некалькі дзён Езус зноў прыйшоў у Кафарнаум, і разышлася вестка,
што Ён у доме. [2]Адразу сабралася столькі народу, што ўжо не было месца каля
дзвярэй. І Ён прамаўляў да іх. [3]Прыйшлі да Яго чацвёра, якія неслі
паралізаванага. [4]Не змогшы прынесці яго да Езуса праз натоўп, разабралі
страху, дзе Ён быў, і праз адтуліну спусцілі насілкі, на якіх ляжаў паралізаваны.
[5]Убачыўшы іх веру, Езус сказаў паралізаванаму: «Сыне, адпускаюцца твае
грахі».
[6]Там жа сядзелі некаторыя з кніжнікаў і разважалі ў сэрцах сваіх: [7]«Чаму
ён так кажа? Ён блюзнерыць! Хто можа адпускаць грахі, калі не сам Бог?»
[8]Езус, адразу пазнаўшы духам сваім, што яны так разважаюць, сказаў ім: «Чаму
так разважаеце ў сэрцах вашых? [9]Што лягчэй? Сказаць паралізаванаму:
“Адпускаюцца твае грахі”, ці сказаць: “Устань, вазьмі насілкі свае і хадзі?”
[10]Але каб вы ведалі, што Сын Чалавечы мае на зямлі ўладу адпускаць грахі». І
сказаў паралізаванаму: [11]«Табе кажу: устань, вазьмі насілкі свае ды ідзі да дому
свайго». [12]Той адразу ж устаў і, узяўшы насілкі, выйшаў перад усімі, так што
ўсе дзівіліся і славілі Бога, кажучы: «Ніколі мы такога не бачылі!»
[13]Езус зноў выйшаў да мора. І ўсе людзі прыходзілі да Яго, а Ён навучаў іх.
[14]Праходзячы, Ён убачыў Левія, сына Алфея, які сядзеў на мытні, і сказаў яму:
«Ідзі за Мною». Той устаў і пайшоў за Ім. [15]Калі Езус сядзеў за сталом у доме
ягоным, шмат мытнікаў і грэшнікаў было разам з Ім і вучнямі Ягонымі, бо
шмат было тых, хто ішоў за Ім. [16]Кніжнікі з ліку фарысеяў, убачыўшы, што Ён

есць з грэшнікамі і мытнікамі, казалі вучням Ягоным: «Чаму Ён есць з
мытнікамі і грэшнікамі?» [17]Пачуўшы гэта, Езус сказаў ім: «Не здаровым
патрэбны лекар, а хворым; Я прыйшоў заклікаць не праведнікаў, а грэшнікаў».
[18]Вучні Янавы і фарысеі пасцілі. Яны прыйшлі і сказалі Яму: «Чаму вучні
Янавы і фарысеяў посцяць, а Твае вучні не посцяць?» [19]І сказаў ім Езус: «Ці
могуць пасціць госці на вяселлі, калі з імі жаніх? Пакуль жаніх з імі, не могуць
пасціць. [20]Але прыйдуць дні, калі будзе забраны ад іх жаніх, і тады будуць
пасціць у той дзень. [21]Ніхто не прышывае латы з нябеленага палатна да старой
вопраткі, бо новая лата адарвецца ад старога, і дзіра робіцца яшчэ горшай. [22]І
ніхто не налівае маладое віно ў старыя мяхі. Інакш віно парве мяхі, і прападуць
віно і мяхі. Але маладое віно ўліваюць у новыя мяхі».
[23]Аднойчы ў шабат, калі Езус праходзіў праз пасевы, вучні Ягоныя пачалі
па дарозе зрываць каласы. [24]Тады сказалі Яму фарысеі: «Глядзі, чаму яны
робяць у шабат тое, што не дазволена?» [25]Ён адказаў ім: «Вы ніколі не чыталі,
што зрабіў Давід, калі меў патрэбу і згаладаўся ён і тыя, хто быў з ім? [26]Як
увайшоў у дом Божы ў часы першасвятара Абіятара і еў ахвярныя хлябы, якіх
нельга было есці нікому, акрамя святароў, і даў тым, хто быў з ім?» [27]І сказаў
ім: «Шабат устаноўлены для чалавека, а не чалавек для шабату. [28]Таму Сын
Чалавечы — гаспадар шабату».

## 3 (1-35)

[1]Езус зноў увайшоў у сінагогу. А быў там чалавек з усохлай рукой. [2]І
сачылі за Езусам, ці вылечыць Ён у шабат, каб абвінаваціць Яго. [3]І сказаў Ён
чалавеку з усохлай рукою: «Стань пасярэдзіне». [4]А ў іх запытаўся: «У шабат
дазволена рабіць дабро ці зло, душу ўратаваць ці загубіць?» Але яны маўчалі.
[5]Гнеўна паглядзеўшы на іх, засмучаны жорсткасцю іх сэрцаў, сказаў таму
чалавеку: «Працягні руку». Той працягнуў — і стала здаровай рука ягоная.
[6]Тады фарысеі выйшлі, адразу сабралі з прыхільнікамі Ірада нараду супраць
Езуса, каб загубіць Яго.
[7]Езус адышоў з вучнямі сваімі да мора. А за Ім ішоў вялікі натоўп з
Галілеі, з Юдэі, [8]з Ерузалема, з Ідумеі; з-за Ярдана і з ваколіц Тыра і Сідона
прыйшло да Яго вялікае мноства людзей, якія пачулі, што Ён рабіў. [9]Тады
сказаў Ён сваім вучням падрыхтаваць Яму човен, каб натоўп не заціснуў Яго.
[10]Многіх Ён аздаравіў, таму тыя, хто меў якую-небудзь хваробу, ціснуліся, каб
дакрануцца да Яго. [11]Нячыстыя духі, калі бачылі Яго, падалі перад Ім і крычалі:
«Ты — Сын Божы!» [12]Але Ён строга забараняў ім, каб не выкрывалі Яго.
[13]Пасля ўзышоў на гару і паклікаў да сябе тых, каго сам хацеў, і яны
прыйшлі да Яго. [14]І ўстанавіў Дванаццаць, якіх і назваў Апосталамі, каб яны
былі з Ім, каб пасылаць іх прапаведаваць [15]і каб яны мелі ўладу выганяць злых
духаў. [16]І устанавіў гэтых Дванаццаць: Сымона, якому даў імя Пётр, [17]Якуба
Зэбэдэевага і Яна, брата Якуба, і даў ім імёны Баанэргес, што азначае «сыны
грому»; [18]і Андрэя, і Філіпа, і Барталамея, і Мацвея, і Тамаша, і Якуба
Алфеевага, і Тадэвуша, і Сымона Кананэйца, [19]і Юду Іскарыёта, які і выдаў Яго.

[20]І прыйшоў Езус з вучнямі ў дом. І зноў сабраўся натоўп, так што яны не
маглі нават паесці хлеба. [21]Пачуўшы гэта, Яго родныя пайшлі забраць Яго, бо
казалі, што Ён страціў розум.
[22]А кніжнікі, якія прыйшлі з Ерузалема, казалі, што Ён мае ў сабе
Бэльзэбула і князем злых духаў Ён выганяе злых духаў. [23]А Езус, паклікаўшы
іх, казаў ім у прыпавесцях: «Як можа сатана выганяць сатану? [24]Калі
валадарства падзеліцца знутры, не можа выстаяць такое валадарства. [25]І калі
дом падзеліцца знутры, не можа выстаяць такі дом. [26]І калі сатана паўстаў
супраць сябе і падзяліўся, не можа выстаяць, але канец яму. [27]Ніхто не можа
ўвайсці ў дом асілка і выкрасці ягоныя рэчы, калі спачатку не звяжа асілка.
Тады толькі абрабуе дом ягоны. [28]Сапраўды кажу вам, што сынам чалавечым
будуць адпушчаны ўсе грахі і блюзнерствы, якімі б ні блюзнерылі. [29]Але той,
хто будзе блюзнерыць супраць Духа Святога, ніколі не атрымае адпушчэння, а
будзе асуджаны навекі». [30]Так сказаў, бо гаварылі: «Ён мае нячыстага духа».
[31]І прыйшлі Маці Яго і браты Ягоныя і, стоячы звонку, паслалі паклікаць
Яго. [32]Натоўп, які сядзеў каля Яго, казаў Яму: «Вось Маці Твая, і браты Твае, і
сёстры Твае на вуліцы шукаюць Цябе». [33]Але Ён сказаў ім у адказ: «Хто маці
Мая і браты Мае?» [34]І паглядзеўшы на тых, хто сядзеў вакол Яго, сказаў: «Вось
Маці Мая і браты Мае. [35]Бо хто будзе выконваць волю Божую, той Мне брат, і
сястра, і маці».

## 4 (1-41)

[1]Езус зноў пачаў навучаць каля мора. І сабралася каля Яго мноства народу,
так што Ён увайшоў у човен і сеў у ім на моры, а ўвесь народ быў на беразе
каля мора. [2]Ён шмат чаму навучаў іх у прыпавесцях і ў сваім павучанні казаў
ім: [3]«Слухайце. Вось выйшаў сейбіт сеяць. [4]І калі сеяў, сталася так, што адно
зерне ўпала пры дарозе. Прыляцелі птушкі і падзяўблі яго. [5]Іншае ўпала на
камяністае месца, дзе было мала зямлі, і адразу прарасло, бо зямля была
неглыбокая. [6]А калі ўзышло сонца, яно завяла, бо не мела карэння, і засохла.
[7]Іншае ўпала ў церні, і выраслі церні, і заглушылі яго так, што яно не прынесла
плёну. [8]Іншае ўпала на добрую глебу і прынесла плён, які ўзышоў і вырас. І
адно ўрадзіла ў трыццаць, другое ў шэсцьдзесят, а іншае ў сто разоў». [9]І сказаў:
«Хто мае вушы, каб слухаць, няхай слухае».
[10]А калі застаўся адзін, тыя, хто быў вакол Яго разам з Дванаццаццю,
пыталіся ў Яго аб прыпавесці. [11]І Ён сказаў ім: «Вам дадзена таямніца Божага
Валадарства, а для тых, хто звонку, усё адбываецца ў прыпавесцях,
[12]*каб яны глядзелі і не бачылі,*
*слухалі і не разумелі,*
*каб не навярнуліся*
*і каб не было адпушчана ім».*
[13]І сказаў ім: «Не разумееце гэтай прыпавесці? А як жа зразумееце ўсе
іншыя прыпавесці? [14]Сейбіт сее слова. [15]Пасеянае пры дарозе — гэта тыя, у якіх
сеецца слова, але як толькі пачуюць яго, адразу прыходзіць сатана і забірае
слова, пасеянае ў іх. [16]Пасеянае на камяністых месцах — гэта тыя, хто, як толькі

пачуе слова, адразу з радасцю прымае яго, 17 але не мае ў сабе кораня і нясталы.
Потым, калі за слова настане ўціск ці пераслед, адразу спакушаюцца. 18 Іншае,
пасеянае ў цернях, — гэта тыя, хто чуе слова, 19 але турботы свету, зман багацця
ды іншыя жаданні ўваходзяць у іх і заглушаюць слова, і яно становіцца
бясплодным. 20 А пасеянае на добрай зямлі — гэта тыя, хто слухае слова,
прымае яго і прыносіць плён: адзін у трыццаць, другі ў шэсцьдзесят, а іншы ў
сто разоў».

21 І казаў ім: «Ці для таго прыносяць светач, каб паставіць яго пад пасудзіну
або пад ложак? Ці ўсё ж для таго, каб паставіць яго на свечніку? 22 Бо няма
нічога схаванага, што б ні адкрылася, і няма нічога таемнага, што б ні
выявілася. 23 Хто мае вушы, каб слухаць, няхай слухае».

24 І сказаў ім: «Зважайце на тое, што чуеце. Якой мераю мераеце, такой і
вам будзе адмерана, і яшчэ дададзена будзе вам. 25 Бо хто мае, таму дадзена
будзе, а хто не мае, у таго адымецца і тое, што мае».

26 І сказаў: «Так і Валадарства Божае нібы чалавек, што кідае зерне ў
зямлю. 27 І спіць, і ўстае ноччу і днём, а як зерне ўзыходзіць і расце, ён не ведае.
28 Бо зямля сама па сабе прыносіць плён: спачатку рунь, потым колас, потым
поўнае зерне ў коласе. 29 Калі ж саспее плод, адразу пасылае серп, таму што
настала жніво».

30 І сказаў: «З чым параўнаем Валадарства Божае? Ці ў якой прыпавесці
выявім яго? 31 Яно як гарчычнае зерне: калі яго сеюць у зямлю, яно найменшае з
усяго насення на зямлі. 32 Калі ж пасеяна, узыходзіць і становіцца большым за
ўсялякую зяляніну, пускае вялікае галлё, так што ў цяню ягоным могуць
гняздзіцца нябесныя птушкі».

33 У многіх такіх прыпавесцях прапаведаваў ім слова, колькі яны маглі
слухаць. 34 А без прыпавесці не казаў ім, а сваім вучням сам-насам тлумачыў
усё.

35 У той дзень, калі настаў вечар, Езус сказаў сваім вучням: «Пераправімся
на другі бераг». 36 І, адпусціўшы людзей, яны забралі Яго з сабою, так як быў, у
човен; таксама былі з Ім іншыя чаўны. 37 І ўзнялася вялікая бура. Хвалі так
залівалі човен, што ён ужо напаўняўся вадою. 38 А Езус спаў на карме на
ўзгалоўі. Пабудзілі Яго і сказалі Яму: «Настаўнік, не хвалюе Цябе, што мы
гінем?» 39 Устаўшы, Ён загадаў ветру і сказаў мору: «Змоўкні, супакойся!» І
вецер сціх, і настала вялікая ціша. 40 Тады сказаў ім: «Чаго вы такія баязлівыя?
Яшчэ не маеце веры?» 41 Яны напоўніліся вялікім страхам і гаварылі паміж
сабой: «Хто ж Ён такі, што і вецер, і мора слухаюцца Яго?»

## 5 (1-43)

1 І прыбылі на другі бераг мора ў край геразенаў. 2 А калі Езус выйшаў з
чоўна, Яму адразу насустрач выйшаў чалавек з магільных пячор, апанаваны
нячыстым духам, 3 які жыў у магільных пячорах. Ніхто не мог звязаць яго нават
ланцугом, 4 бо часта яго звязвалі кайданамі і ланцугамі, але ён разрываў ланцугі
і разбіваў кайданы, і ніхто не мог яго ўтаймаваць. 5 Увесь дзень і ўсю ноч,
будучы ў магільных пячорах і ў гарах, ён крычаў і біў самога сябе камянямі.

[6]Калі ён здалёк убачыў Езуса, падбег і пакланіўся Яму, [7]і закрычаў моцным
голасам, кажучы: «Што Табе да мяне, Езусе, Сыне Бога Найвышэйшага? Богам
заклінаю Цябе, не муч мяне». [8]Бо Езус сказаў яму: «Выйдзі, нячысты дух, з
гэтага чалавека». [9]Тады спытаўся ў яго Езус: «Як тваё імя?» Той адказаў: «Маё
імя легіён, бо нас шмат». [10]І ён моцна прасіў Яго не выганяць іх з гэтай краіны.

[11]Пасвіўся там каля гары вялікі статак свіней. [12]І прасілі Яго нячыстыя
духі, кажучы: «Пашлі нас у свіней, каб мы ўвайшлі ў іх». [13]І Ён дазволіў ім. І,
выйшаўшы, увайшлі гэтыя нячыстыя духі ў свіней, і кінуўся статак каля дзвюх
тысяч з кручы ў мора, і патанулі яны ў моры. [14]А свінапасы паўцякалі і
расказалі ў горадзе і ў вёсках, і людзі выйшлі паглядзець, што сталася.
[15]Прыйшоўшы да Езуса, яны ўбачылі, што той апанаваны злым духам, у якім
быў легіён, сядзіць апрануты і пры здаровым розуме, і спалохаліся. [16]А тыя, хто
бачыў, расказалі ім, што сталася з апанаваным злым духам, і пра свіней. [17]Тады
пачалі прасіць Езуса, каб адышоў з іхніх межаў. [18]Калі Ён сядаў у човен,
апанаваны злым духам прасіўся ў Яго застацца з Ім. [19]Але Ён не дазволіў яму і
сказаў: «Вярніся да свайго дому і да сваіх і раскажы ім усё, што Пан учыніў
табе і як зміласаваўся над табою». [20]Той адышоў і пачаў абвяшчаць у Дэкаполісе
ўсё, што ўчыніў яму Езус, і ўсе здзіўляліся.

[21]Калі Езус ізноў пераправіўся ў чоўне на другі бераг, сабралася да Яго
мноства народу. А быў Ён каля мора. [22]І вось прыйшоў адзін з кіраўнікоў
сінагогі па імені Яір і, убачыўшы Езуса, упаў да Ягоных ног і моцна прасіў,
кажучы: [23]«Дачушка мая памірае, прыйдзі, ускладзі на яе рукі, каб яна
ўратавалася і жыла». [24]І пайшоў з ім. А вялікі натоўп ішоў за Езусам, і ціснуліся
да Яго.

[25]Вось пэўная жанчына, якая хварэла на крывацёк дванаццаць гадоў і шмат
выцерпела ад многіх лекараў, [26]патраціла на іх усю маёмасць сваю, аднак нішто
не дапамагло, і ёй станавілася нават горш, [27]пачуўшы пра Езуса, падышла ў
натоўпе ззаду і дакранулася да плашча Ягонага. [28]Бо казала сама сабе: «Калі
дакрануся хаця б да плашча Ягонага, выздаравею». [29]І адразу ж спыніўся ў яе
крывацёк, і адчула яна ў целе, што вызвалілася ад хваробы. [30]Езус, адразу
адчуўшы, што моц выйшла з Яго, звярнуўся да народу і сказаў: «Хто
дакрануўся да Майго плашча?» [31]А вучні Ягоныя сказалі Яму: «Ты бачыш, што
народ ціснецца да Цябе, і пытаешся “хто дакрануўся да Мяне?”» [32]Але Ён
аглядаўся, каб убачыць тую, якая зрабіла гэта. [33]А жанчына спалохалася і
задрыжэла, бо ведала, што з ёй сталася. Яна падышла і ўпала перад Ім, і сказала
Яму ўсю праўду. [34]Ён жа сказаў ёй: «Дачка, вера твая ўратавала цябе. Ідзі ў
спакоі і будзь вольная ад хваробы сваёй».

[35]Калі Ён яшчэ гаварыў, прыйшлі ад кіраўніка сінагогі і сказалі: «Дачка
твая памерла, навошта ты яшчэ турбуеш Настаўніка?» [36]Але Езус, пачуўшы
гэтыя словы, сказаў кіраўніку сінагогі: «Не бойся, толькі вер!» [37]І не дазволіў
нікому ісці за сабою, акрамя Пятра, Якуба і Яна, брата Якуба. [38]Калі прыйшоў
Ён у дом кіраўніка сінагогі, убачыў мітусню і тых, хто плакаў і моцна галасіў.
[39]Увайшоўшы, Ён сказаў ім: «Чаго мітусіцеся і плачаце? Дзіця не памерла, а
спіць». [40]І насміхаліся з Яго. Але Ён, выгнаўшы ўсіх, узяў з сабою бацьку і маці
дзіцяці і тых, хто быў з Ім, і ўвайшоў туды, дзе было дзіця. [41]Узяўшы дзяўчынку

за руку, сказаў ёй: «Таліта, кум!» — што значыць: «Дзяўчынка, табе кажу, устань!» [42]І адразу ўстала дзяўчынка, і пачала хадзіць. А было ёй дванаццаць гадоў. І замерлі яны ў вялікім здзіўленні. [43]А Ён строга загадаў ім, каб ніхто пра гэта не ведаў, і сказаў даць ёй есці.

## 6 (1-56)

[1]Выйшаўшы адтуль, Езус прыйшоў на сваю бацькаўшчыну. А за Ім ішлі Ягоныя вучні. [2]Калі надышоў шабат, Ён пачаў навучаць у сінагозе. Многія, хто слухаў, здзіўляліся і казалі: «Адкуль у Яго гэта і што за мудрасць дадзена Яму, і як такія цуды чыняцца Ягонымі рукамі? [3]Ці ж гэта не цясляр, сын Марыі, брат Якуба, Юзафа, Юды і Сымона? Ці ж не тут сярод нас Ягоныя сёстры?» І абураліся на Яго. [4]А Езус казаў ім: «Няма прарока без пашаны, хіба што на бацькаўшчыне яго, і сярод родных яго, і ў доме яго». [5]Таму Ён не мог учыніць там ніякага цуду, толькі на некалькіх хворых усклаў рукі і аздаравіў іх. [6]І дзівіўся іх бязвер’ю.

Хадзіў па навакольных вёсках і навучаў.

[7]Пасля паклікаў Дванаццаць, і пачаў высылаць іх па двое, і даў ім уладу над нячыстымі духамі. [8]І наказаў ім не браць у дарогу нічога, акрамя аднаго кія: ні хлеба, ні торбы, ні медзі ў поясе, [9]але абувацца ў сандалі і не апранаць дзвюх вопратак. [10]І сказаў ім: «Калі дзе ўвойдзеце ў дом, заставайцеся там, пакуль не выйдзеце адтуль. [11]І калі ў якім-небудзь месцы не прымуць вас і не будуць слухаць вас, то, выходзячы адтуль, абтрасіце пыл з ног вашых на сведчанне ім». [12]І, пайшоўшы, яны прапаведавалі пакаянне, [13]і выганялі шмат злых духаў і шмат хворых намашчвалі алеем, і вылечвалі.

[14]І пачуў кароль Ірад пра Езуса, бо імя Ягонае стала вядомым, і сказаў: «Гэта Ян Хрысціцель паўстаў з памерлых, і таму цуды здзяйсняюцца ім». [15]Іншыя казалі: «Гэта Ілля». А яшчэ іншыя казалі: «Гэта прарок або як адзін з пракокаў». [16]Калі Ірад пачуў гэта, ён сказаў: «Гэта Ян, якому я адсек галаву, паўстаў з памерлых!»

[17]Бо сам Ірад паслаў схапіць Яна і закаваў яго ў вязніцы з-за Ірадыяды, жонкі брата свайго Філіпа, таму што ён ажаніўся з ёй. [18]Бо Ян казаў Іраду: «Недазволена табе мець жонку брата твайго». [19]Таму Ірадыяда злавалася на яго і хацела забіць, але не магла, [20]бо Ірад баяўся Яна, ведаючы, што ён чалавек справядлівы і святы, і аберагаў яго. Шмат разоў чуў яго і непакоіўся, але слухаў яго з ахвотай. [21]І настаў зручны дзень, калі Ірад прыгатаваў вячэру сваім вяльможам, тысячнікам і старэйшынам галілейскім у дзень сваіх народзін; [22]і ўвайшла дачка Ірадыяды, і танцавала, і спадабалася Іраду і яго гасцям. Кароль сказаў дзяўчыне: «Прасі ў мяне, чаго хочаш, і я дам табе». [23]І шмат у чым пакляўся ёй: «Чаго ні папросіш, дам табе, нават палову майго каралеўства». [24]Яна выйшла і сказала маці сваёй: «Чаго мне папрасіць?» Тая адказала: «Галаву Яна Хрысціцеля». [25]І яна адразу хутка ўвайшла да караля і папрасіла, кажучы: «Хачу, каб ты зараз жа даў мне на місе галаву Яна Хрысціцеля». [26]І кароль засмуціўся, але дзеля клятвы і тых, хто быў за сталом, не захацеў ёй адмовіць. [27]Таму адразу кароль паслаў ка́та і загадаў прынесці галаву Яна. Той

пайшоў у вязніцу і адсек яму галаву, [28]і прынёс на місе ягоную галаву, і аддаў
яе дзяўчыне, а дзяўчына аддала яе сваёй маці. [29]Калі пра гэта даведаліся вучні
Яна, яны прыйшлі і забралі ягонае цела, і паклалі яго ў магілу.

[30]Апосталы сабраліся каля Езуса і расказалі Яму ўсё, што зрабілі і чаму
навучылі. [31]І Ён сказаў ім: «Пайдзіце адны ў пустыннае месца і крыху
адпачніце». Бо так шмат людзей прыходзіла і адыходзіла, што ім не было нават
калі паесці. [32]І адплылі яны ў пустыннае месца на чоўне адны.

[33]Калі ўбачылі, што яны адплылі, шмат хто, даведаўшыся, пешкі збегліся
туды з усіх гарадоў і апярэдзілі іх. [34]Выйшаўшы з чоўна, Езус убачыў мноства
людзей і змілаваўся над імі, бо яны былі як авечкі без пастыра. І пачаў іх
многаму вучыць. [35]Калі мінула ўжо шмат часу, вучні Ягоныя, падышоўшы да
Яго, сказалі: «Месца гэта пустыннае, і гадзіна ўжо позняя; [36]адпусці іх, каб яны
пайшлі ў навакольныя вёскі і паселішчы і купілі сабе чаго-небудзь з’есці». [37]Ён
жа сказаў ім у адказ: «Вы дайце ім есці». І сказалі Яму: «Ці мы павінны пайсці і
за дзвесце дынараў купіць хлеба, і даць ім есці?» [38]А Ён спытаўся ў іх: «Колькі
ў вас хлябоў? Ідзіце, паглядзіце». Даведаўшыся, яны сказалі: «Пяць хлябоў і
дзве рыбіны». [39]Тады загадаў ім пасадзіць усіх групамі на зялёнай траве. [40]І
паселі групамі па сто і па пяцьдзесят. [41]І ўзяўшы пяць хлябоў і дзве рыбіны,
паглядзеў на неба, благаславіў і разламаў хлябы, і даў вучням сваім, каб яны
раздалі ім; і дзве рыбіны падзяліў на ўсіх. [42]І ўсе елі, і насыціліся. [43]І сабралі
дванаццаць поўных кашоў кавалкаў і рэшты ад рыбы. [44]А тых, хто еў хлябы,
было каля пяці тысяч мужчын.

[45]І адразу Езус загадаў вучням сваім увайсці ў човен і плысці ўперад Яго на
другі бераг да Бэтсаіды, пакуль Ён адпусціць людзей. [46]І, развітаўшыся з імі, Ён
пайшоў на гару памаліцца. [47]Калі настаў вечар, човен быў на сярэдзіне мора, а
Ён адзін на беразе. [48]Убачыўшы іх знясіленых ад веславання, бо ім дзьмуў
сустрэчны вецер, каля чацвёртай варты ночы Ён прыйшоў да іх, ідучы па моры;
і хацеў прайсці міма. [49]Калі ж яны ўбачылі, як Ён ідзе па моры, падумалі, што
гэта прывід, і закрычалі. [50]Бо ўсе, убачыўшы Яго, спалохаліся. Але Ён адразу
загаварыў з імі і сказаў ім: «Будзьце адважнымі, гэта Я; не бойцеся!» [51]І
ўвайшоў да іх у човен, а вецер сціх. Яны вельмі здзіўляліся, [52]бо не разумелі
цуду з хлебам, таму што сэрца іхняе было скамянелае.

[53]Пераправіўшыся, яны прыбылі ў зямлю Генэзарэт і прысталі да берага.
[54]Калі яны выйшлі з чоўна, людзі, адразу пазнаўшы Яго, [55]аббеглі ўсё наваколле
і пачалі прыносіць на насілках хворых туды, дзе, як чулі, Ён знаходзіўся. [56]І
куды б Ён ні прыходзіў, у паселішчы, гарады ці ў вёскі, клалі хворых на
плошчах і прасілі Яго дазволіць ім дакрануцца хоць да краю вопраткі Ягонай. І
тыя, што дакраналіся да Яго, выздараўлівалі.

## 7 (1-37)

[1]Сышліся да Яго фарысеі і некаторыя з кніжнікаў, якія прыйшлі з
Ерузалема. [2]І ўбачылі, як некаторыя вучні Яго елі хлеб нячыстымі, гэта значыць
неабмытымі рукамі. [3]Фарысеі ж і ўсе юдэі, трымаючыся традыцыі старэйшых,
не ядуць, пакуль старанна не памыюць рук. [4]І вярнуўшыся з рынку, не ядуць,

пакуль не абмыюцца. Ёсць і яшчэ шмат таго, чаго прынята трымацца: абмыцця
чашаў, і збаноў, і медных начынняў, і лаваў. 5Таму запыталіся ў Яго фарысеі і
кніжнікі: «Чаму вучні Твае не трымаюцца традыцыі старэйшых, а ядуць хлеб
нячыстымі рукамі?» 6Ён адказаў ім: «Добра прарочыў Ісая наконт вас,
крывадушных, як напісана:

*“Гэты народ шануе Мяне вуснамі,*
*а сэрца іх далёка ад Мяне.*
7*Але дарэмна ўшаноўваюць Мяне,*
*навучаючы людскім запаведзям”.*

8Бо вы пакінулі запаведзь Божую, а трымаецеся чалавечай традыцыі». 9І
сказаў ім: «Прыгожа вы абыходзіце Божую запаведзь, каб захаваць сваю
традыцыю. 10Бо Майсей сказаў: *“Шануй бацьку свайго і маці сваю”* і: *“Хто
зласловіць на бацьку ці маці, няхай будзе пакараны смерцю”*. 11А вы кажаце:
“Калі чалавек скажа бацьку ці маці: тое, чым бы я мог табе дапамагчы —
корбан (што значыць дар для Бога)”, 12то ўжо не дазваляеце яму зрабіць
штосьці для бацькі ці маці. 13Вы парушаеце Божае слова вашай традыцыяй,
якую перадалі. І робіце шмат чаго падобнага да гэтага».

14І паклікаўшы зноў людзей, сказаў ім: «Паслухайце Мяне ўсе і
зразумейце. 15Няма нічога, што магло б, уваходзячы звонку ў чалавека, зрабіць
яго нячыстым, але тое робіць чалавека нячыстым, што выходзіць з яго». (16)

17І калі Езус увайшоў у дом, пакінуўшы натоўп, вучні Ягоныя спыталіся ў
Яго наконт прыпавесці. 18І Ён сказаў ім: «Няўжо і вы такія някемлівыя? Ці не
разумееце, што ўсё, што ўваходзіць звонку ў чалавека, не можа зрабіць яго
нячыстым, 19бо не ў сэрца ягонае ўваходзіць, а ў страўнік, і выходзіць вонкі».
Так Ён прызнаў усялякую ежу чыстай. 20Далей сказаў: «Тое, што выходзіць з
чалавека, робіць яго нячыстым. 21Бо знутры, з чалавечага сэрца, выходзяць
благія думкі, распуста, крадзеж, забойствы, 22чужаложства, сквапнасць,
зласлівасць, падступнасць, бессаромнасць, зайздрасць, блюзнерства, пыха,
глупства. 23Усё гэтае зло выходзіць знутры і робіць чалавека нячыстым».

24Устаўшы, Езус адышоў у межы Тыра. Увайшоўшы ў дом, хацеў, каб
ніхто не ведаў пра гэта, але не змог утаіцца. 25Бо жанчына, у якой была
апанаваная нячыстым духам дачка, адразу пачула пра Яго, прыйшла і ўпала да
Ягоных ног. 26А была гэтая жанчына язычніцай, родам сірафінікіянка. І яна
прасіла Яго выгнаць злога духа з яе дачкі. 27Ён адказаў ёй: «Дай спачатку
насыціцца дзецям, бо нядобра ўзяць хлеб у дзяцей і кінуць шчанятам». 28Яна ж
адказала Яму, кажучы: «Пане, але і шчаняты ядуць пад сталом крошкі ў
дзяцей». 29Тады Ён сказаў ёй: «Дзеля гэтых слоў ідзі, злы дух выйшаў з тваёй
дачкі». 30Калі яна прыйшла ў свой дом, убачыла, што злы дух выйшаў, а дачка
ляжыць на ложку.

31І зноў выйшаў Езус з межаў Тыра і прайшоў праз Сідон да Галілейскага
мора, пасярод зямель Дэкаполіса. 32І прывялі да Яго глуханямога, і прасілі, каб
усклаў на яго руку. 33Адвёўшы яго далей ад натоўпу, Езус паклаў у яго вушы
свае пальцы і, паслініўшы, дакрануўся да ягонага языка. 34Паглядзеўшы на
неба, уздыхнуў і сказаў яму: «Эффата», што значыць: «Адкрыйся». 35І адразу
адкрыліся вушы ягоныя і развязаліся путы языка ягонага, і пачаў гаварыць

выразна. [36]Тады Езус загадаў ім, каб нікому не казалі. Але колькі ні забараняў
ім, яны апавядалі яшчэ больш. [37]Будучы надзвычай здзіўленымі, яны казалі:
«Ён зрабіў ўсё добра: учыніў, што глухія чуюць, а нямыя гавораць!»

## 8 (1-38)

[1]У тыя дні, калі зноў сабралася мноства людзей, і не было ў іх чаго есці,
Езус паклікаў вучняў і сказаў ім: [2]«Шкада Мне людзей, бо ўжо тры дні яны
знаходзяцца са Мною і не маюць чаго есці. [3]Калі адпраўлю іх дадому
галоднымі, аслабнуць у дарозе, бо некаторыя з іх прыйшлі здалёк». [4]І адказалі
Яму вучні Ягоныя: «Хто і адкуль накорміць іх хлебам тут, у пустыні?» [5]Ён
спытаўся ў іх: «Колькі маеце хлябоў?» Яны адказалі: «Сем». [6]Тады загадаў
людзям сесці на зямлю. І, узяўшы сем хлябоў, узнёс падзяку, паламаў і даў
вучням сваім, каб раздавалі. І яны раздалі людзям. [7]Мелі таксама некалькі
рыбінак. Езус іх благаславіў і загадаў раздаць. [8]І яны елі, і насыціліся, і набралі
сем кашоў кавалкаў, што засталіся. [9]А тых, хто еў, было каля чатырох тысяч. І
адпусціў іх.

[10]Тады адразу з вучнямі сваімі Езус увайшоў у човен, і прыбыў у
далмануцкі край. [11]І выйшлі фарысеі, і пачалі спрачацца з Ім, патрабуючы ад
Яго знаку з неба, каб выпрабаваць Яго. [12]Але Ён уздыхнуў у духу сваім і сказаў:
«Чаму гэтае пакаленне патрабуе знаку? Сапраўды кажу вам: не будзе дадзена
знаку пакаленню гэтаму». [13]Пасля Ён пакінуў вучняў, зноў сеў у човен і адплыў
на другі бок.

[14]Вучні Езуса забыліся ўзяць хлеба і мелі з сабой у чоўне толькі адзін
бохан хлеба. [15]Тады Езус загадаў ім: «Глядзіце, асцерагайцеся закваскі
фарысейскай і закваскі Ірада!» [16]А яны разважалі між сабою, што не маюць
хлеба. [17]Пазнаўшы гэта, Езус сказаў ім: «Чаму разважаеце, што не маеце хлеба?
Хіба не разумееце і не ведаеце? Ці яшчэ скамянелыя сэрцы вашы? [18]*Маеце вочы
і не бачыце, маеце вушы і не чуеце?* Ці не памятаеце, колькі поўных кашоў
рэштак сабралі вы, [19]калі Я разламаў пяць хлябоў на пяць тысяч?» Яны адказалі
Яму: «Дванаццаць». [20]«А калі Я разламаў сем хлябоў на чатыры тысячы, колькі
поўных кашоў рэштак сабралі вы?» Адказалі Яму: «Сем». [21]І сказаў ім: «Усё
яшчэ не разумееце?»

[22]І прыйшлі яны ў Бэтсаіду. І прывялі да Яго сляпога, і прасілі, каб Езус
дакрануўся да яго. [23]Ён узяў сляпога за руку і вывеў яго за вёску, паслініў яму
вочы, усклаў на яго рукі і спытаўся ў яго: «Ці бачыш што-небудзь?» [24]Той
паглядзеў і сказаў: «Бачу людзей, нібы дрэвы, што ходзяць». [25]Потым зноў
усклаў рукі на яго вочы, і той стаў відушчым, і выздаравеў, і пачаў бачыць усё
выразна. [26]Езус адаслаў яго дадому, кажучы: «Не ўваходзь у гэтую вёску».

[27]Пасля Езус са сваімі вучнямі пайшоў у паселішчы Цэзарэі Філіпавай. Па
дарозе Ён пытаўся ў вучняў сваіх, кажучы ім: «Кім лічаць Мяне людзі?» [28]Яны
адказвалі Яму: «Янам Хрысціцелем, другія — Іллёю, іншыя — адным з
прарокаў». [29]А Ён спытаўся ў іх: «А вы кім лічыце Мяне?» Адказваючы, Пётр
сказаў Яму: «Ты — Хрыстус». [30]І забараніў ім, каб нікому не казалі пра Яго.

31 Ён пачаў вучыць іх, што Сын Чалавечы павінен шмат выцерпець, і быць
адкінутым старэйшымі, першасвятарамі і кніжнікамі, і быць забітым, і на трэці
дзень уваскрэснуць. 32 І казаў пра гэта адкрыта. А Пётр, адвёўшы Яго ў бок,
пачаў дакараць Яго. 33 Але Ён, павярнуўшыся і паглядзеўшы на сваіх вучняў,
дакарыў Пятра, кажучы: «Адыдзі ад Мяне, сатана, бо думаеш не пра тое, што
Божае, а пра тое, што чалавечае».
34 І, паклікаўшы натоўп разам са сваімі вучнямі, сказаў ім: «Калі хто хоча
ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе, возьме крыж свой і ідзе за Мною. 35 Бо
той, хто хоча жыццё сваё ўратаваць, загубіць яго, а хто загубіць жыццё сваё
дзеля Мяне і Евангелля, той уратуе яго. 36 Бо якая карысць чалавеку, калі ён
здабудзе ўвесь свет, а пашкодзіць свайму жыццю? 37 Бо што дасць чалавек
узамен за сваё жыццё? 38 Хто будзе саромецца Мяне і Маіх слоў перад гэтым
распусным і грэшным пакаленнем, таго і Сын Чалавечы пасаромеецца, калі
прыйдзе ў славе Айца свайго са святымі анёламі».

## 9 (1-50)

1 І сказаў ім: «Сапраўды кажу вам, што некаторыя з тых, хто тут стаіць, не
зазнаюць смерці, пакуль не ўбачаць Божага Валадарства, якое прыйдзе ў
магутнасці».
2 І праз шэсць дзён узяў Езус Пятра, Якуба і Яна і асобна павёў іх адных на
высокую гару. І перамяніўся перад імі. 3 Адзенне Ягонае стала бліскучым і
вельмі белым, як ніводзін валюшнік на зямлі не можа выбеліць. 4 І з’явіўся ім
Ілля з Майсеем, і размаўлялі з Езусам. 5 Адазваўшыся, Пётр сказаў Езусу:
«Раббі, добра нам тут быць, таму зробім тры шатры: Табе адзін, Майсею адзін і
адзін Іллі». 6 Бо не ведаў, што сказаць, таму што яны спалохаліся. 7 І з’явілася
воблака, якое закрыла іх, і з воблака пачуўся голас: «Гэта Сын Мой умілаваны,
Яго слухайце». 8 І адразу, калі яны агледзеліся навокал, ужо нікога не ўбачылі,
толькі аднаго Езуса.
9 Калі сыходзілі з гары, Езус загадаў ім нікому не казаць, што бачылі,
пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне. 10 Яны захавалі наказ, разважаючы між
сабою, што значыць «уваскрэснуць». 11 І пыталіся ў Яго, кажучы: «Чаму
кніжнікі кажуць, што Ілля мае прыйсці першым?» 12 Ён сказаў ім: «Ілля
сапраўды прыйдзе першым і адновіць усё; як і напісана пра Сына Чалавечага,
што будзе Ён шмат цярпець і будзе прыніжаны. 13 Але кажу вам, што Ілля
прыйшоў і зрабілі з ім, што хацелі, як напісана пра яго».
14 Калі Езус прыйшоў да вучняў, Ён убачыў каля іх вялікі натоўп і
кніжнікаў, якія спрачаліся з імі. 15 І адразу ўсе людзі, калі ўбачылі Яго,
спалохаліся і, падбягаючы, віталі Яго. 16 Ён спытаўся ў іх: «Пра што спрачаецеся
з імі?» 17 І адказаў Яму адзін з натоўпу: «Настаўнік, я прывёў да Цябе свайго
сына, які мае духа нематы. 18 Дзе ні схопіць яго, кідае, і той пускае пену,
скрыгоча зубамі і дранцвее. Я сказаў тваім вучням, каб выгналі яго, але яны не
змаглі». 19 Адказваючы, Езус сказаў ім: «О, пакаленне нявернае, дакуль буду з
вамі? Дакуль буду цярпець вас? Прывядзіце яго да Мяне». 20 І прывялі яго да
Езуса. А калі дух убачыў Яго, адразу застрос хлопца, і той, упаўшы на зямлю,

качаўся, пускаючы пену. 21Езус спытаўся ў ягонага бацькі: «Як даўно гэта
здараецца з ім?» Той адказаў: «З дзяцінства. 22Дух часта кідаў яго ў агонь і ў
ваду, каб загубіць яго. Але калі Ты што можаш, змілуйся над намі і дапамажы
нам». 23Езус сказаў яму: «"Калі можаш!" Усё магчыма для таго, хто верыць».
24Бацька хлопца адразу ўсклікнуў, кажучы: «Веру, памажы майму бязвер'ю».
25Убачыўшы, што збягаюцца людзі, Езус прыгразіў нячыстаму духу, кажучы
яму: «Нямы і глухі дух, Я загадваю табе, выйдзі з яго і больш не ўваходзь у
яго». 26І той, закрычаўшы, моцна скалануў хлопца і выйшаў. І хлопец зрабіўся
як мёртвы, так што многія казалі: «Ён памёр!» 27Але Езус узяў яго за руку,
падняў, і ён устаў.

28Калі Езус увайшоў у дом, вучні Ягоныя спыталіся ў Яго сам-насам:
«Чаму мы не змаглі выгнаць яго?» 29А Ён сказаў ім: «Такога духа нельга
выгнаць нічым, як толькі малітвай».

30Выйшаўшы адтуль, яны праходзілі праз Галілею, і Езус не хацеў, каб
нехта ведаў. 31Бо вучыў сваіх вучняў і казаў ім, што Сын Чалавечы аддадзены
будзе ў рукі людзей, і заб'юць Яго, і забіты ўваскрэсне праз тры дні. 32Але яны
не разумелі гэтых слоў, а спытацца ў Яго баяліся.

33Калі прыйшлі ў Кафарнаум і былі ў доме, спытаўся ў іх: «Пра што вы
разважалі па дарозе?» 34Яны маўчалі, бо ў дарозе разважалі паміж сабою, хто
большы. 35Сеўшы, Ён паклікаў Дванаццаць і сказаў ім: «Калі хто хоча быць
першым, няхай будзе з усіх апошнім і слугою ўсіх». 36Потым узяў дзіця,
паставіў сярод іх і, абняўшы яго, сказаў ім: 37«Хто прымае адно з такіх дзяцей у
імя Маё, той Мяне прымае. А хто Мяне прымае, той не Мяне прымае, але таго,
хто паслаў Мяне».

38Ян сказаў Яму: «Настаўнік, мы бачылі чалавека, які ў імя Тваё выганяў
злых духаў, і забаранялі яму, бо не хадзіў з намі». 39А Езус сказаў: «Не
забараняйце яму, бо ніхто, хто ўчыніў цуд у Маё імя, не зможа адразу
зласловіць на Мяне. 40Бо хто не супраць нас, той за нас. 41А хто напоіць вас
кубкам вады ў імя таго, што вы Хрыстовыя, сапраўды кажу вам, не страціць
узнагароды сваёй.

42І хто спакусіць аднаго з малых гэтых, якія вераць у Мяне, таму лепш
было б, каб павесілі яму на шыю млынавы камень і кінулі яго ў мора.

43Калі спакушае цябе рука твая, адсячы яе. Лепш табе калекаю ўвайсці ў
жыццё, чым з дзвюма рукамі ісці ў геену, у агонь непагасны. (44)

45І калі нага твая цябе спакушае, адсячы яе. Лепш табе ўвайсці ў жыццё
кульгавым, чым з дзвюма нагамі быць кінутым у геену. (46)

47І калі вока тваё цябе спакушае, вырві яго. Лепш табе аднавокім увайсці ў
Божае Валадарства, чым, маючы два вокі, быць кінутым у геену, 48дзе *чарвяк іх
не памірае і агонь не гасне*. 49Бо кожны будзе пасолены агнём. 50Соль — добрая
рэч, але калі соль стане несалёнай, чым прыправіце яе? Майце ў сабе соль і
жывіце між сабою ў спакоі».

## 10 (1-52)

[1]Выйшаўшы адтуль, Езус прыйшоў у межы Юдэі за Ярданам. І зноў
сабраліся каля Яго натоўпы, а Ён, як звычайна, зноў навучаў іх. [2]Тады падышлі
да Езуса фарысеі і, выпрабоўваючы Яго, спыталіся, ці дазволена мужу
разводзіцца з жонкаю? [3]Ён жа, адказваючы, сказаў ім: «Што наказаў вам
Майсей?» [4]Яны сказалі: «Майсей дазволіў *напісаць разводны ліст і
разводзіцца*». [5]А Езус адказаў ім: «Дзеля жорсткасці сэрца вашага ён напісаў
вам гэты наказ, [6]бо на пачатку стварэння Бог *стварыў іх мужчынам і
жанчынай*. [7]*Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці і злучыцца з жонкай
сваёй,* [8]*і будуць двое адным целам*. Так што яны ўжо не двое, але адно цела.
[9]Таму, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае». [10]У доме вучні зноў
спыталіся ў Яго пра гэта. [11]Ён сказаў ім: «Хто развядзецца з жонкаю сваёю і
ажэніцца з іншай, той чужаложыць супраць яе. [12]І калі жонка развядзецца з
мужам сваім і выйдзе замуж за іншага, чужаложыць».

[13]І прыносілі да Езуса дзяцей, каб Ён дакрануўся да іх. Але вучні
забаранялі ім. [14]Убачыўшы гэта, Езус абурыўся і сказаў ім: «Дазвольце дзецям
прыходзіць да Мяне, не забараняйце ім, бо такім належыць Валадарства Божае.
[15]Сапраўды кажу вам: хто не прыме Валадарства Божага, як дзіця, той не
ўвойдзе ў яго». [16]І, абняўшы іх, благаславіў, ускладаючы на іх рукі.

[17]І калі Езус выходзіў у дарогу, вось падбег да Яго адзін чалавек, упаў
перад Ім на калені і спытаўся ў Яго: «Настаўнік добры, што мне рабіць, каб
унаследаваць жыццё вечнае?» [18]Езус сказаў яму: «Чаму называеш Мяне
добрым? Ніхто не ёсць добрым, толькі адзін Бог. [19]Ведаеш запаведзі: *не забівай,
не чужалож, не крадзі, не сведчы фальшыва,* не ашуквай*, шануй бацьку свайго і
маці*».

[20]А той адказаў Яму: «Настаўнік, усё гэта я захоўваў з юнацтва майго».
[21]Езус паглядзеў на яго з любоўю і сказаў: «Табе не хапае аднаго: ідзі, прадай
усё, што маеш, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе. Потым прыходзь і
ідзі за Мною». [22]А ён засмуціўся ад гэтых слоў і адышоў маркотны, бо меў
вялікую маёмасць.

[23]Езус паглядзеў навокал і сказаў сваім вучням: «Як цяжка тым, хто мае
багацце, увайсці ў Валадарства Божае». [24]Вучні дзівіліся з Ягоных слоў. Але
Езус зноў сказаў ім у адказ: «Дзеці, як цяжка тым, хто спадзяецца на багацце,
увайсці ў Валадарства Божае. [25]Лягчэй вярблюду прайсці праз ігольнае вушка,
чым багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае». [26]А яны яшчэ больш здзіўляліся і
казалі адзін аднаму: «Хто ж можа збавіцца?» [27]Езус, зірнуўшы на іх, сказаў: «У
людзей гэта немагчыма, але не ў Бога; бо ў Бога ўсё магчыма».

[28]І пачаў Пётр казаць Яму: «Вось мы пакінулі ўсё і пайшлі за Табою».
[29]Езус адказаў: «Сапраўды кажу вам, няма нікога, хто б пакінуў дом свой, ці
братоў, ці сясцёр, ці маці, ці бацьку, ці дзяцей, ці поле дзеля Мяне і дзеля
Евангелля, [30]і не атрымаў бы ў сто разоў больш цяпер, у гэты час, дамоў,
братоў, сясцёр, маці, дзяцей і палёў сярод пераследу, а ў будучым веку —
жыццё вечнае. [31]Але шмат першых будзе апошнімі, і апошніх — першымі».

32 Калі вучні былі ў дарозе і ўзыходзілі ў Ерузалем, Езус ішоў наперадзе іх.
Яны дзівіліся, а тыя, хто ішоў за Ім, былі спалоханыя. Ён зноў узяў Дванаццаць
і пачаў казаць ім пра тое, што з Ім павінна здарыцца: 33 «Вось, мы ўзыходзім у
Ерузалем, і Сын Чалавечы будзе выдадзены першасвятарам і кніжнікам, і яны
асудзяць Яго на смерць, і аддадуць Яго язычнікам. 34 І будуць здзекавацца з Яго,
аплёўваць Яго і бічаваць Яго, і заб’юць, а праз тры дні Ён уваскрэсне».
35 Падышлі да Езуса Якуб і Ян, сыны Зэбэдэя, і сказалі Яму: «Настаўнік, мы
хочам, каб Ты зрабіў нам тое, пра што Цябе папросім». 36 Ён жа адказаў ім:
«Што хочаце, каб Я зрабіў вам?» 37 Яны сказалі Яму: «Дай нам сесці аднаму
праваруч, а другому леваруч Цябе ў славе Тваёй». 38 Але Езус сказаў ім: «Не
ведаеце, аб чым просіце. Ці можаце піць келіх, які Я п’ю, і прыняць хрост, якім
Я ахрышчаны?» 39 Яны адказалі Яму: «Можам». А Езус сказаў ім: «Келіх, які Я
п’ю, піць будзеце, і хростам, якім Я хрышчуся, будзеце ахрышчаны, 40 але даць
сесці праваруч ці леваруч Мяне не ад Мяне залежыць, а каму падрыхтавана».
41 І, пачуўшы, дзесяць вучняў пачалі абурацца на Якуба і Яна. 42 А Езус,
паклікаўшы іх, сказаў ім: «Вы ведаеце, што тыя, хто лічыцца кіраўнікамі
народаў, пануюць над імі, і вяльможы іх валадараць над імі. 43 Але не так няхай
будзе сярод вас: хто хоча быць большым сярод вас, няхай будзе вам слугою; 44 і
хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе нявольнікам усіх. 45 Бо і Сын
Чалавечы не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць
жыццё сваё для адкуплення многіх».
46 І прыйшлі яны ў Ерыхон. І калі Езус выходзіў з Ерыхона са сваімі
вучнямі і з вялікім натоўпам, Бартымэй, сын Тымэя, сляпы жабрак, сядзеў каля
дарогі. 47 Пачуўшы, што гэта Езус Назаранін, ён пачаў крычаць: «Сыне Давіда,
Езусе, змілуйся нада мною!» 48 Многія загадвалі яму змоўкнуць, але ён яшчэ
мацней крычаў: «Сыне Давіда, змілуйся нада мною!» 49 Езус спыніўся і сказаў:
«Паклічце яго». І паклікалі сляпога, кажучы яму: «Смялей, уставай, Ён кліча
цябе». 50 Ён жа, скінуўшы вопратку сваю, устаў і падышоў да Езуса. 51 І
адказваючы яму, Езус сказаў: «Што хочаш, каб Я зрабіў табе?» Сляпы сказаў
Яму: «Настаўнік, каб я зноў бачыў». 52 І Езус сказаў яму: «Ідзі, вера твая
ўратавала цябе». І той адразу стаў бачыць, і пайшоў за Езусам па дарозе.

## 11 (1-33)

1 Калі наблізіліся да Ерузалема, да Бэтфагіі і Бэтаніі, да гары Аліўнай, Езус
паслаў двух сваіх вучняў 2 і сказаў ім: «Ідзіце ў паселішча, што перад вамі, і
адразу, як увойдзеце ў яе, знойдзеце прывязанае асляня, на якое ніхто з людзей
яшчэ не сядаў. Адвяжыце яго і прывядзіце. 3 А калі хтосьці вам скажа: “Навошта
вы гэта робіце?” скажыце: “Ён патрэбны Пану, і зараз жа адашле зноў яго
сюды”». 4 Яны пайшлі і знайшлі асляня, прывязанае каля варот знадворку, на
вуліцы, і адвязалі яго. 5 Некаторыя з тых, хто стаяў там, казалі ім: «Што вы
адвязваеце асляня?» 6 А яны адказалі ім, як наказаў Езус. І тыя адпусцілі іх. 7 І
прывялі да Езуса асляня, і паклалі на яго свае плашчы, а Ён сеў на яго. 8 І многія
слалі плашчы свае на дарозе, а іншыя — галінкі ад аліўных дрэў, зрэзаныя на
палях. 9 І тыя, хто ішоў спераду і ззаду, усклікалі: «*Гасанна! Благаслаўлёны той,*

*хто прыходзіць у імя Пана!* [10]Благаслаўлёнае валадарства айца нашага Давіда,
якое надыходзіць! *Гасанна* на вышынях!»
[11]І ўвайшоў Езус у Ерузалем, у святыню і, агледзеўшы ўсё, адышоў з
Дванаццаццю ў Бэтанію, таму што было ўжо позна.
[12]Назаўтра, калі яны выйшлі з Бэтаніі, Ён адчуў голад. [13]Убачыўшы здалёк
смакоўніцу, пакрытую лісцем, падышоў, спадзеючыся знайсці што-небудзь на
ёй. Але, падышоўшы да яе, не знайшоў нічога, апроч лісця, бо яшчэ не настала
пара на смоквы. [14]Тады Езус сказаў ёй: «Няхай ніхто ніколі не есць з цябе
плоду». І Ягоныя вучні чулі гэта.
[15]Потым прыйшлі ў Ерузалем. І, увайшоўшы ў святыню, Ён пачаў
выганяць тых, хто гандляваў і купляў у святыні. Ён папераварочваў сталы
мянялаў і лаўкі гандляроў галубамі [16]і не дазваляў нікому праносіць праз
святыню якую-небудзь рэч. [17]Потым вучыў іх, кажучы: «Хіба не напісана: *“Дом
мой назавецца домам малітвы для ўсіх народаў”*? А вы зрабілі з яго *пячору
разбойнікаў*».
[18]Пачулі гэта першасвятары і кніжнікі і шукалі магчымасці, як бы загубіць
Яго, бо яны баяліся Яго, таму што ўвесь народ дзівіўся вучэнню Ягонаму.
[19]Калі настаў вечар, яны выйшлі з горада.
[20]А калі раніцай вярталіся, убачылі, што смакоўніца высахла аж да кораня.
[21]Тады Пётр, успомніўшы, сказаў Езусу: «Раббі, паглядзі, смакоўніца, якую Ты
пракляў, высахла». [22]Езус сказаў ім у адказ: «Майце веру ў Бога! [23]Сапраўды
кажу вам: калі хто скажа гары гэтай: “Падыміся і кінься ў мора”, і не
засумняваецца ў сэрцы сваім, але паверыць, што збудзецца сказанае, так яму і
будзе. [24]Таму кажу вам: усё, чаго просіце ў малітве, верце, што атрымаеце і
будзе вам. [25]І калі стаіце на малітве, даруйце, калі што маеце супраць каго-
небудзь, каб і Айцец ваш, які ў нябёсах, дараваў вам правіны вашыя». [(26)]
[27]І зноў Езус з вучнямі прыйшлі ў Ерузалем. І калі Ён хадзіў па святыні,
падышлі да Яго першасвятары, кніжнікі і старэйшыны [28]і пыталіся ў Яго:
«Якою ўладаю Ты гэта робіш? І хто Табе даў гэтую ўладу, каб Ты рабіў гэта?»
[29]Езус адказаў ім: «Спытаю ў вас і Я пра адно. Адкажаце Мне, тады і Я вам
скажу, якою ўладаю гэта раблю. [30]Янаў хрост быў з неба ці ад людзей?
Адкажыце Мне». [31]Яны разважалі паміж сабою, кажучы: «Калі скажам “з неба”,
то Ён скажа: “Чаму ж вы не паверылі яму?” [32]А сказаць “ад людзей” баяліся
народу, бо ўсе лічылі Яна сапраўдным прарокам, [33]таму сказалі ў адказ Езусу:
«Не ведаем». Тады Езус сказаў ім: «І Я не скажу вам, якой уладай раблю гэта».

## 12 (1-44)

[1]І пачаў Езус гаварыць да іх у прыпавесцях: «*Адзін* чалавек *пасадзіў
вінаграднік, абнёс яго агароджай, выкапаў сток пад давілам, пабудаваў вежу*
ды, аддаўшы яго вінаградарам, паехаў. [2]А ў адпаведны час паслаў да
вінагарадараў слугу, каб той узяў у вінаградараў частку з пладоў вінаградніку.
[3]Але яны, схапіўшы яго, збілі і адаслалі ні з чым. [4]Тады зноў паслаў да іх
іншага слугу, і гэтаму зранілі галаву і зняважылі. [5]Паслаў яшчэ аднаго, і яго
забілі, а шмат іншых ці пабілі, ці пазабівалі. [6]Маючы яшчэ аднаго, умілаванага

сына, паслаў яго апошнім да іх, кажучы: “Ушануюць сына майго”. [7]Але
вінаградары сказалі адзін аднаму: “Гэта спадкаемца. Хадземце, заб’ем яго, і
спадчына будзе наша”. [8]І, схапіўшы, забілі яго і выкінулі яго з вінаградніку.
[9]Дык што зробіць гаспадар вінаградніку? Ён прыйдзе і знішчыць вінаградараў,
а вінаграднік аддасць іншым. [10]Няўжо вы не чыталі гэтага ў Пісанні:
*“Камень, адкінуты будаўнікамі,*
*стаў галавою вугла.*
[11]*Пан учыніў гэта,*
*і дзіўнае яно ў вачах нашых”*?»

[12]І яны намагаліся схапіць Езуса, бо зразумелі, што гэтая прыпавесць
супраць іх, але баяліся натоўпу. І, адпусіўшы Яго, адышлі.

[13]І паслалі да Яго Езуса некаторых фарысеяў і прыхільнікаў Ірада, каб
злавіць Яго на слове. [14]Падышоўшы, яны спыталіся ў Яго: «Настаўнік, мы
ведаем, што Ты праўдзівы і не зважаеш ні на кога, бо не глядзіш на аблічча
людзей, але праўдзіва шляху Божаму вучыш. Ці належыць плаціць падатак
цэзару, ці не? Плаціць нам, ці не плаціць?» [15]А Ён, ведаючы іх крывадушнасць,
сказаў ім: «Чаму Мяне выпрабоўваеце? Прынясіце Мне дынар, каб паглядзець».
[16]Калі прынеслі Яму дынар, Ён запытаў іх: «Чыя гэта выява і надпіс?» Яны
адказалі Яму: «Цэзара». [17]Тады Езус сказаў ім: «Цэзарава аддавайце цэзару, а
Божае Богу». І дзівіліся Яму.

[18]І прыйшлі да Езуса садукеі, якія кажуць, што няма ўваскрашэння, і
спыталіся ў Яго: [19]«Настаўнік, Майсей напісаў нам, што *калі ў некага памрэ
брат* і пакіне жонку, *а дзяцей не пакіне, яго брат павінен узяць ягоную жонку і
абудзіць патомства для брата свайго.* [20]Было сем братоў. Першы ажаніўся і,
памершы, не пакінуў патомства. [21]Тады ажаніўся з ёю другі і таксама памёр, не
пакінуўшы патомства. Падобна і трэці. [22]І ніхто з семярых не пакінуў
патомства. Пасля ўсіх памерла і жанчына. [23]Пры ўваскрашэнні, калі яны
ўваскрэснуць, каму з іх яна будзе жонкай? Бо ў семярых яна была жонкаю».
[24]Езус адказаў ім: «Ці не таму памыляецеся, што не ведаеце ні Пісання, ні моцы
Божай? [25]Бо калі ўваскрэснуць, не будуць ні жаніцца, ні выходзіць замуж, але
будуць як анёлы ў нябёсах. [26]А наконт таго, што мёртвыя ўваскрэснуць, ці не
чыталі вы ў кнізе Майсея, дзе гаворыцца пра куст, як Бог прамаўляў да Яго,
кажучы: *“Я Бог Абрагама, Бог Ісаака і Якуба”*? [27]Бог не ёсць Богам мёртвых,
але жывых. Таму вы моцна памыляецеся».

[28]Адзін кніжнік, які прыслухоўваўся да іх, як яны размаўлялі паміж сабою,
падышоў і спытаўся ў Езуса: «Якая запаведзь першая з усіх?» [29]Езус адказаў:
«Першая такая: *“Слухай, Ізраэль, Пан Бог наш — Пан адзіны*; [30]*любі Пана Бога
твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душой тваёй, і ўсім розумам тваім, і ўсёй
моцаю тваёй”*. [31]Другая: *“Любі бліжняга твайго, як самога сябе”*. Няма іншай
запаведзі, большай за гэтыя». [32]І сказаў Яму кніжнік: «Добра, Настаўнік, Ты
праўду сказаў, што *ёсць адзін і няма іншага, апроч Яго*. [33]*Любіць Яго ўсім
сэрцам, і ўсім розумам, і ўсёю моцаю*; і *любіць бліжняга, як самога сябе* — гэта
больш за ўсе ахвяры і ўсеспаленні». [34]Езус, убачыўшы, што той разумна
адказвае, сказаў яму: «Недалёка ты ад Валадарства Божага». І ніхто ўжо больш
не адважваўся пытацца ў Яго.

[35]Адказваючы, Езус сказаў, навучаючы ў святыні: «Як могуць казаць
кніжнікі, што Месія — сын Давіда? [36]Сам Давід сказаў у Духу Святым:
*“Сказаў Пан Пану майму: сядзь праваруч Мяне,*
*пакуль не пакладу ворагаў Тваіх пад ногі Твае”*.
[37]Сам Давід называе Яго Панам; то які ж Ён яму сын?» І вялікі натоўп
слухаў Яго з задавальненнем.
[38]І казаў ім Езус, навучаючы: «Асцерагайцеся кніжнікаў, якія любяць
хадзіць у доўгіх шатах, і любяць прывітанні на рынках, [39]і першыя лавы ў
сінагогах, і першыя месцы на гасцінах. [40]Тыя, хто аб’ядае дамы ўдоў і доўга
моліцца напаказ, атрымаюць найцяжэйшы прысуд».
[41]І, сеўшы насупраць скарбонкі, Ён назіраў, як людзі кідалі грошы ў
скарбонку. Многія багатыя кідалі памногу. [42]І прыйшла адна бедная ўдава, і
ўкінула дзве лепты, што складае чвэрць аса. [43]Паклікаўшы вучняў сваіх, Езус
сказаў ім: «Сапраўды кажу вам, што гэтая бедная ўдава ўкінула больш за ўсіх,
хто кідаў у скарбонку. [44]Бо ўсе кідалі, маючы лішак, а яна, будучы ў нястачы
сваёй, укінула ўсё, што мела, увесь пражытак свой».

## 13 (1-37)

[1]Калі Езус выходзіў са святыні, адзін з вучняў Ягоных сказаў Яму:
«Настаўнік, паглядзі, якія камні і якія будынкі». [2]А Езус сказаў яму: «Бачыш
гэтыя вялікія будынкі? Не застанецца тут каменя на камені, які б не быў
зруйнаваны». [3]І калі Ён сядзеў на Аліўнай гары насупраць святыні, пыталіся ў
Яго сам-насам Пётр, Якуб, Ян і Андрэй: [4]«Скажы нам, калі гэта будзе і які
будзе знак, калі павінна ўсё гэта споўніцца?»
[5]І Езус пачаў казаць ім: «Глядзіце, каб ніхто не звёў вас. [6]Многія прыйдуць
пад імем Маім, кажучы, што гэта Я, і многіх звядуць. [7]Калі ж пачуеце пра
войны і весткі з войнаў, не дазваляйце сябе запалохаць. Так павінна адбыцца,
але гэта яшчэ не канец. [8]Бо паўстане народ на народ, і каралеўства на
каралеўства; і будуць землятрусы месцамі, будзе голад. Гэта пачатак пакут.
[9]Сцеражыцеся. Вас будуць аддаваць у суды і ў сінагогах будуць біць, і
паставяць вас перад намеснікамі і каралямі за Мяне на сведчанне ім. [10]Але
найперш Евангелле павінна быць абвешчана ўсім народам. [11]І калі павядуць,
каб выдаць вас, не турбуйцеся загадзя, што сказаць, а кажыце тое, што будзе
дадзена вам у тую гадзіну, бо не вы будзеце гаварыць, а Дух Святы. [12]І брат
выдасць брата на смерць, і бацька дзіця; і паўстануць дзеці супраць бацькоў, і
заб’юць іх; [13]і зненавідзяць вас усе за імя Маё. Але той, хто вытрывае да канца,
будзе збаўлены.
[14]А калі ўбачыце, што *агіда спусташэння* паўстала там, дзе не павінна
быць (хто чытае, няхай зразумее), тады тыя, хто ў Юдэі, няхай уцякаюць у
горы; [15]хто будзе на даху, няхай не спускаецца ў дом узяць нешта з дому
свайго; [16]хто будзе на полі, няхай не вяртаецца забраць вопратку сваю. [17]Гора
цяжарным і тым, што кормяць грудзьмі ў тыя дні! [18]Маліцеся, каб не здарылася
гэта зімой. [19]Бо гэта будуць дні *такой тугі, якой не было аж дагэтуль ад*
*пачатку стварэння*, якое стварыў Бог, і не будзе. [20]І калі б Пан не скараціў

гэтых дзён, не ўратавалася б ніякае цела. Але дзеля выбраных, якіх абраў,
скараціў дні. [21]І тады, калі хтосьці скажа вам: “Вось, тут Хрыстус, вось, там”, —
не верце. [22]Бо паўстануць фальшывыя месіі і фальшывыя пракокі і будуць
чыніць знакі і цуды, каб увесці ў зман, калі ўдасца, выбраных. [23]А вы
сцеражыцеся. Я прадказаў вам усё.

[24]Але ў тыя дні пасля тугі такой *зацьміцца сонца*, *і месяц не дасць святла
свайго*. [25]*І зоркі будуць* падаць з неба, *і сілы нябесныя пахіснуцца*.

[26]Тады ўбачаць *Сына Чалавечага, які будзе ісці на аблоках* з вялікай сілай і
ў славе. [27]Ён пашле тады анёлаў і збярэ выбраных сваіх ад чатырох вятроў, ад
краю зямлі да краю неба.

[28]Вучыцеся на прыкладзе смакоўніцы: калі галінка яе становіцца ўжо
мяккай і пускае лісце, ведаеце, што блізка лета. [29]Так і вы, калі ўбачыце, што
адбываецца гэта, ведайце, што блізка той час, пры дзвярах. [30]Сапраўды кажу
вам: не міне пакаленне гэтае, як усё гэта адбудзецца. [31]Неба і зямля мінуць, а
словы Мае не мінуць. [32]А пра дзень той або гадзіну ні анёлы ў небе, ні Сын,
ніхто не ведае, а толькі Айцец.

[33]Глядзіце, чувайце, бо не ведаеце, калі настане той час. [34]Падобна гэта да
чалавека, які, сабраўшыся ў далёкую дарогу, пакінуў дом свой, даў слугам сваім
уладу і кожнаму сваю працу і загадаў брамніку чуваць. [35]Таму чувайце і вы, бо
не ведаеце, калі прыйдзе гаспадар дому: увечары, ці апоўначы, ці пры спеве
пеўняў, ці раніцай, [36]каб не застаў вас спячымі, калі вернецца неспадзявана. [37]А
што вам кажу, кажу ўсім: чувайце!»

## 14 (1-72)

[1]Было два дні да свята Пасхі і Праснакоў. І шукалі першасвятары і
кніжнікі, як бы ўзяць Езуса хітрасцю і забіць, [2]бо казалі: «Не ў свята, каб не
было абурэння ў народзе».

[3]І калі Езус быў у Бэтаніі, у доме пракажонага Сымона, і сядзеў за сталом,
прыйшла жанчына з алебастравым флаконам міра з чыстага і вельмі
каштоўнага нарду і, разбіўшы флакон, выліла Яму на галаву. [4]А некаторыя
абураліся паміж сабою: «Навошта гэткае марнатраўства міра? [5]Бо можна было
прадаць гэтае міра больш чым за трыста дынараў і раздаць убогім». І папракалі
яе.

[6]Але Езус сказаў: «Пакіньце яе. Навошта дакучаеце ёй? Яна зрабіла добры
ўчынак для Мяне. [7]Бо ўбогіх заўсёды маеце пры сабе, і калі захочаце, можаце
ім чыніць дабро; а Мяне не заўсёды маеце. [8]Яна зрабіла, што магла: загадзя
намасціла цела Маё для пахавання. [9]Сапраўды кажу вам: дзе б ні абвяшчалася
Евангелле па ўсім свеце, пра тое, што зрабіла яна, сказана будзе на ўспамін аб
ёй».

[10]І пайшоў Юда Іскарыёт, адзін з Дванаццаці, да першасвятароў, каб
выдаць ім Езуса. [11]Яны ж, пачуўшы, узрадаваліся і абяцалі даць яму срэбранікі.
І ён шукаў, як пры нагодзе выдаць Яго.

[12]І ў першы дзень Праснакоў, калі ахвяравалі Пасху, сказалі Яму вучні
Ягоныя: «Дзе хочаш, каб мы пайшлі і прыгатавалі Табе з’есці Пасху?» [13]І Ён

паслаў двух з вучняў сваіх, кажучы ім: «Ідзіце ў горад; там сустрэне вас
чалавек, які будзе несці збан вады. Ідзіце за ім 14і там, куды ўвойдзе, скажаце
гаспадару дому: “Настаўнік кажа: дзе святліца, у якой Я мог бы з’есці Пасху з
вучнямі Маімі?” 15І ён пакажа вам вялікі верхні пакой, засланы і падрыхтаваны.
Там прыгатуеце нам». 16І пайшлі вучні Ягоныя, і прыйшлі ў горад, і знайшлі, як
сказаў ім, і прыгатавалі Пасху.

17А калі звечарэла, Ён прыйшоў з Дванаццаццю. 18І, калі яны сядзелі за
сталом і елі, Езус сказаў: «Сапраўды кажу вам, што адзін з вас, *які есць са
Мною*, выдасць Мяне». 19Яны засмуціліся і пачалі казаць Яму адзін за адным:
«Ці не я?» 20А Ён сказаў ім: «Адзін з Дванаццаці, які мачае са Мною ў місе.
21Бо сапраўды, Сын Чалавечы адыходзіць, як пісана пра Яго, але гора таму
чалавеку, які выдае Сына Чалавечага. Лепш было б гэтаму чалавеку не
нарадзіцца».

22І калі яны елі, Езус, узяўшы хлеб, благаславіў, паламаў і даў ім, кажучы:
«Бярыце, гэта Цела Маё». 23І, узяўшы келіх, узнёс падзяку і даў ім; і пілі з яго
ўсе. 24І сказаў ім: «Гэта Кроў Мая новага запавету, якая за многіх праліваецца.
25Сапраўды кажу вам, што ўжо не буду піць ад плоду вінаграднай лазы да таго
дня, калі буду піць яго новым у Валадарстве Божым».

26І, праспяваўшы гімн, яны пайшлі на Аліўную гару. 27І сказаў ім Езус:
«Усе вы зняверыцеся, бо напісана: *“Удару пастыра, і рассеюцца авечкі”*.

28Але пасля ўваскрасення Майго Я апярэджу вас у Галілеі». 29Пётр сказаў
Яму: «Калі ўсе і зняверацца, але толькі не я». 30Адказаў яму Езус: «Сапраўды
кажу табе, што ты сёння, у гэтую ноч, перш чым двойчы заспявае певень,
тройчы адрачэшся ад Мяне». 31Але ён яшчэ настойлівей казаў: «Калі б трэба
было памерці разам з Табою, не адракуся ад Цябе». Тое самае казалі і ўсе.

32Калі яны прыйшлі ў месца, якое называлася Гетсэманія, Езус сказаў
вучням сваім: «Сядзьце тут, пакуль Я памалюся». 33І ўзяў з сабою Пятра, Якуба
і Яна; і ахапіў Яго страх і трывога. 34І сказаў ім: «Засмучана душа Мая аж да
смерці; застаньцеся тут і чувайце». 35І, адышоўшы крыху ўперад, упаў на
зямлю і маліўся, каб, калі магчыма, абмінула Яго гэтая гадзіна; 36і казаў: «Абба,
Ойча! Ты ўсё можаш. Адхілі ад Мяне гэты келіх; але не чаго Я хачу, а чаго
Ты». 37Калі вярнуўся і знайшоў іх спячымі, сказаў Пятру: «Сымоне, спіш? Ты
не мог чуваць адной гадзіны? 38Чувайце і маліцеся, каб не паддацца спакусе.
Сапраўды, дух ахвочы, але цела слабое». 39І зноў, адышоўшы, маліўся тымі ж
словамі. 40Вярнуўшыся, зноў знайшоў іх спячымі, бо вочы ў іх былі стомленыя;
і не ведалі яны, што Яму адказаць. 41І прыйшоў Ён трэці раз, і сказаў ім: «Усё
яшчэ спіце і адпачываеце? Досыць, настала гадзіна: вось выдаецца Сын
Чалавечы ў рукі грэшнікаў. 42Устаньце, пойдзем, вось наблізіўся мой здраднік».

43І адразу, калі Ён яшчэ гаварыў, прыйшоў Юда, адзін з Дванаццаці, а з ім
мноства людзей з мячамі і кіямі ад першасвятароў, кніжнікаў і старэйшын. 44А
той, хто выдаў Яго, даў ім знак, кажучы: «Каго я пацалую, той і ёсць; схапіце
Яго і вядзіце асцярожна». 45І, прыйшоўшы, адразу падышоў да Езуса і сказаў:
«Раббі!» І пацалаваў Яго. 46А яны ўсклалі на Яго рукі свае і схапілі Яго. 47Адзін
жа з тых, хто стаяў побач, дастаўшы меч, ударыў слугу першасвятара і адсек
яму вуха. 48Адказваючы, Езус сказаў ім: «Як на злачынцу выйшлі вы з мячамі і

кіямі, каб схапіць Мяне. [49]Кожны дзень Я быў з вамі ў святыні і навучаў, і вы
не схапілі Мяне. Але, каб збыліся Пісанні». [50]І усе, пакінуўшы Яго, паўцякалі.
[51]Адзін юнак, накінуўшы палатно на голае цела, ішоў следам за Ім; і схапілі
яго. [52]А ён, пакінуўшы палатно, голы ўцёк ад іх.

[53]І завялі Езуса да першасвятара, у якога сабраліся ўсе першасвятары,
старэйшыны і кніжнікі. [54]А Пётр зводдаль ішоў следам за Ім аж у сярэдзіну, на
дзядзінец першасвятара; і сядзеў са слугамі, і грэўся каля агню. [55]А
першасвятары і ўвесь Сінэдрыён шукалі супраць Езуса сведчання, каб забіць
Яго, і не знаходзілі. [56]Бо многія давалі ілжывыя сведчанні супраць Яго, але
сведчанні не супадалі. [57]А некаторыя, устаўшы, сведчылі супраць Яго ілжыва,
кажучы: [58]«Мы чулі, як Ён казаў: “Я зруйную гэтую рукатворную святыню і за
тры дні адбудую іншую, нерукатворную”» [59]Але і так сведчанне іхняе не
супадала. [60]Тады стаў першасвятар пасярэдзіне і спытаўся ў Езуса, кажучы:
«Нічога не адказваеш на тое, што яны супраць Цябе сведчаць?» [61]Але Ён
маўчаў і нічога не адказваў. Зноў першасвятар пытаўся ў Яго і казаў Яму: «Ці
Ты Хрыстус, Сын Благаслаўлёнага?» [62]Езус сказаў: «Я. І *вы ўбачыце Сына
Чалавечага, які сядзіць праваруч Усемагутнага і ідзе на аблоках нябесных*».

[63]Першасвятар жа разадраў адзенне сваё і сказаў: «Навошта яшчэ нам
сведкі? [64]Вы чулі блюзнерства. Як вам здаецца?» І яны ўсе прызналі Яго
вартым смерці.

[65]Некаторыя пачалі пляваць на Яго і закрываць Яму твар, і біць Яго, і
казаць Яму: «Прароч». Таксама слугі білі Яго па твары.

[66]Калі Пётр быў унізе на дзядзінцы, прыйшла адна служанка першасвятара
[67]і, убачыўшы Пятра, які грэўся, прыгледзелася да яго і сказала: «І ты быў з
Езусам Назаранінам!» [68]Але ён адрокся, сказаўшы: «Не ведаю і не разумею,
што ты кажаш!» І выйшаў адтуль на пярэдні дзядзінец. І заспяваў певень.
[69]Служанка, зноў убачыўшы яго, пачала казаць тым, хто стаяў побач: «Гэты з
іх!» [70]Ён жа зноў адрокся. Крыху пазней тыя, хто стаяў тут, зноў пачалі
гаварыць Пятру: «Сапраўды, ты з іх, бо ты галілеянін». [71]Ён жа пачаў клясціся і
прысягаць: «Не ведаю гэтага Чалавека, пра якога гаворыце!» [72]І адразу другі
раз заспяваў певень. І ўзгадаў Пётр слова, сказанае яму Езусам: «Перш чым
двойчы заспявае певень, тройчы адрачэшся ад Мяне». І заплакаў.

## 15 (1-47)

[1]З самай раніцы першасвятары са старэйшынамі і кніжнікамі і ўвесь
Сінэдрыён зрабілі нараду і, звязаўшы Езуса, павялі і аддалі Пілату. [2]Пілат
спытаўся ў Яго: «Ты Кароль Юдэйскі?» Ён жа сказаў яму ў адказ: «Ты кажаш».
[3]І абвінавачвалі Яго першасвятары ў многім. [4]Пілат жа зноў спытаўся ў Яго:
«Ты нічога не адказваеш? Паглядзі, колькі сведчыць супраць Цябе». [5]Езус
нічога больш не адказваў, таму дзівіўся Пілат.

[6]На свята ён адпускаў ім аднаго вязня, якога прасілі. [7]Быў жа нейкі Бараба,
зняволены са сваімі саўдзельнікамі, якія падчас бунту ўчынілі забойства. [8]І,
падышоўшы, натоўп пачаў прасіць таго, што ён заўсёды рабіў ім. [9]Пілат жа
сказаў ім у адказ: «Хочаце, адпушчу вам Караля Юдэйскага?» [10]Бо ведаў, што

першасвятары выдалі Яго ад зайздрасці. [11]Але першасвятары падбухторылі
народ, каб лепш адпусціў ім Барабу. [12]Пілат, адказваючы, зноў сказаў ім: «Што
хочаце, каб я зрабіў з тым, каго вы называеце Каралём Юдэйскім?» [13]Яны
закрычалі зноў: «Укрыжуй Яго!» [14]Пілат сказаў ім: «Што дрэннага зрабіў Ён?»
Але яны яшчэ мацней закрычалі: «Укрыжуй Яго!» [15]Тады Пілат, хочучы
дагадзіць людзям, адпусціў ім Барабу, а Езуса пасля бічавання аддаў на
ўкрыжаванне.

[16]Жаўнеры адвялі Яго ў сярэдзіну дзядзінца, гэта значыць, у прэторыю, і
сабралі цэлую кагорту. [17]Апранулі Яго ў пурпур і, сплёўшы цярновы вянок,
усклалі на Яго. [18]І пачалі вітаць Яго: «Вітай, кароль Юдэйскі!» [19]І білі Яго па
галаве трысцінай, і плявалі на Яго, і, згінаючы калені, кланяліся Яму. [20]А калі
насмяяліся з Яго, знялі пу́рпур і апранулі ў Ягоную вопратку, і павялі Яго, каб
укрыжаваць.

[21]І прымусілі нейкага Сымона Кірынэйца, бацьку Аляксандра і Руфа, які
ішоў з поля, несці Ягоны крыж. [22]І прывялі Езуса на месца званае Галгота, што
азначае: «Месца Чэрапа». [23]І давалі Яму піць віно са смірнаю, але Ён не ўзяў.

[24]Калі ўкрыжавалі Яго, *падзялілі вопратку* Ягоную, *кідаючы лёсы*, каму
што ўзяць. [25]Была ж трэцяя гадзіна, калі ўкрыжавалі Яго. [26]І быў надпіс з віной
Ягонай: «Кароль Юдэйскі». [27]Разам з Ім укрыжавалі двух злачынцаў, аднаго з
правага, другога з левага боку ад Яго. [(28)]

[29]Тыя, хто праходзіў, зневажалі Яго, *ківаючы галовамі* сваімі і кажучы:
«Гэй! Ты, што руйнуеш святыню і за тры дні будуеш, [30]уратуй сябе самога,
сышоўшы з крыжа!» [31]Падобна і першасвятары з кніжнікамі, насміхаючыся,
казалі адзін аднаму: «Іншых ратаваў, а сябе не можа ўратаваць. [32]Хрыстус,
Кароль Ізраэля, няхай сыдзе цяпер з крыжа, каб мы ўбачылі і паверылі». І тыя,
хто быў укрыжаваны разам з Ім, зневажалі Яго.

[33]Калі надышла шостая гадзіна, цемра настала па ўсёй зямлі аж да гадзіны
дзевятай. [34]А каля дзевятай гадзіны ўсклікнуў Езус моцным голасам: «*Элі, Элі,
лема сабахтані?*», што азначае: «*Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне
пакінуў?*» [35]Некаторыя з тых, хто стаяў там, чуючы гэта, казалі: «Вось, Ён кліча
Іллю». [36]А адзін пабег, намачыў губку *воцатам* і, насадзіўшы на трысціну, *паіў*
Яго, кажучы: «Чакайце, пабачым, ці прыйдзе Ілля зняць Яго». [37]Езус жа,
ускрыкнуўшы моцным голасам, сканаў.

[38]І заслона ў святыні разарвалася надвое ад верху да нізу.

[39]Сотнік, які стаяў насупраць Яго, сказаў, убачыўшы як Ён канаў:
«Праўдзіва, Чалавек гэты быў Сынам Божым».

[40]Былі і жанчыны, якія глядзелі здалёк. Сярод іх была і Марыя Магдалена,
і Марыя, маці Якуба малодшага і Юзафа, і Саламея, якія тады, [41]калі Ён быў у
Галілеі, спадарожнічалі і служылі Яму, і многія іншыя, якія разам з Ім прыйшлі
ў Ерузалем.

[42]Калі звечарэла, і паколькі была пятніца, гэта значыць пярэдадзень
шабату, [43]прыйшоў Юзаф з Арыматэі, дастойны дарадчык, які і сам чакаў
Валадарства Божага, і адважыўся ўвайсці да Пілата, каб прасіць цела Езуса.
[44]Пілат здзівіўся, што Ён ужо памёр, і, паклікаўшы сотніка, спытаўся ў яго, ці
даўно сканаў. [45]І даведаўшыся ад сотніка, аддаў цела Юзафу. [46]Ён, купіўшы

палатно і зняўшы цела, захінуў у палатно і паклаў у магіле, якая была высечана
ў скале, і прываліў камень да яе ўваходу. [47]А Марыя Магдалена і Марыя Юзафа
глядзелі, дзе Яго паклалі.

## 16 (1-20)

[1]Калі мінуў шабат, Марыя Магдалена і Марыя Якубава, і Саламея купілі
духмянасцяў, каб пайсці і намасціць Езуса. [2]І вельмі рана, у першы дзень
тыдня, прыйшлі да магілы, калі ўзышло сонца, [3]і гаварылі між сабою: «Хто
адсуне нам камень ад уваходу ў магілу?» [4]І паглядзеўшы, убачылі, што камень
адсунуты, а быў ён вельмі вялікі. [5]І ўвайшоўшы ў магілу, убачылі юнака, які
сядзеў з правага боку і быў апрануты ў белае адзенне, і вельмі спалохаліся. [6]А
ён сказаў ім: «Не бойцеся! Шукаеце Езуса Назараніна, укрыжаванага. Ён
уваскрос, Яго тут няма; вось месца, дзе паклалі Яго. [7]Але ідзіце, скажыце
вучням Ягоным і Пятру: “Ён апярэдзіць вас у Галілеі. Там Яго ўбачыце, як Ён
сказаў вам”». [8]Яны выйшлі і пабеглі ад магілы, бо ахапіў іх страх і здзіўленне.
Нікому таксама нічога не расказалі, бо баяліся.

[9]Калі Езус уваскрос раніцай у першы дзень тыдня, Ён з’явіўся найперш
Марыі Магдалене, з якой Ён выгнаў сем злых духаў. [10]Яна пайшла і расказала
тым, хто быў з Ім, якія смуткавалі і плакалі. [11]А яны, хоць і пачулі, што Ён
жывы і што яна Яго бачыла, не паверылі. [12]Пасля гэтага Езус з’явіўся ў іншай
постаці двум з іх, якія ішлі ў вёску. [13]Тыя вярнуліся і абвясцілі астатнім, але і ім
не паверылі.

[14]Нарэшце, з’явіўся Адзінаццаці, калі яны сядзелі за сталом, і папракаў іх
за бязвер’е і жорсткасць сэрца, бо не паверылі тым, хто бачыў Яго
ўваскрослага. [15]І сказаў ім: «Ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле
ўсякаму стварэнню. [16]Хто паверыць і ахрысціцца, будзе збаўлены, а хто не
паверыць, будзе асуджаны. [17]Тым, хто паверыць, будуць спадарожнічаць такія
знакі: у Маё імя будуць выганяць злых духаў; будуць размаўляць новымі
мовамі; [18]змеяў рукамі браць будуць, і, калі штосьці атрутнае вып’юць, не
пашкодзіць ім. На хворых будуць ускладаць рукі і яны выздаравеюць».

[19]І пасля размовы з імі Пан Езус узнёсся ў неба і сеў праваруч Бога.

[20]А яны пайшлі і паўсюль прапаведавалі. Пан садзейнічаў ім і пацвярджаў
слова знакамі, што яму спадарожнічалі.